# ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ



Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква

ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

401 ATLANTIC AVE., BROOKLYN, N.Y. 11217

Год 17/23 | Красавік, 1995 | 1/35/45


ВЯЛІКОДНАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ
АД ЯГО МІЛАСЬЦІ ІЗЯСЛАВА
БОЖАЙ ЛАСКАЙ
МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА



БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

ХРЫСТОС ВАСКРОС!

Із Днём, што Вялік і Сьвяты над усімі сьвятамі, бо ў ім з Божае Духасьці сталася няўцямнае людзкому розуму Дзіва Ўстаньня з Умерлых нашага Збаўца Ісуса Хрыста ды гэтым спраўдзілася Абяцаньне й нашага Збаўленьня ад духовае й целавае сьмерці, вітаю Вас Чэсьці Годнае Духавенства й Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, дзе-б Вы ня былі Праваслаўныя Беларусы ў духоўным і сьвецкім стане, што да гэтае роднае Сьвятое Царквы йимкняцеся, а яшчэ доступу ня маеце.

Жадаю ўсім Вам з усьцехай у сэрцах сустрэць і радасна адсьвяткаваць гэтую ўрачыстую пару, ды зачэрпаць зь ейнага духовага зьместу натхненьне й сілу, каб служачы, паводле Хрыстовае Навукі, Богу, Бацькаўшчыне й Вашым родным, упэўнена йсьці у лепшую будучыню.

А каб Вашыя сэрцы, як увесну дрэвы брыняюць жывічным сокам, напоўніліся ўсьцехай Устаньня з Умерлых, а душы, як укрытыя цьветам сады, закрасавалі ў цяпле радасьці багацьцем з Найвышша дадзеных добрых імкненьняў, зь якіх растуць годныя ўчынкі, заклікаю ўсіх Вас згадаць пабожнасьць, павагу, ахвярнасьць і працавітасьць, зь якою нашыя бацькі, дзяды й прадзяды рыхтаваліся да Сьвятога Вялікадня, ды самым, паводле іхняга прыкладу, належна прыгатавацца да ўзыходу на духовае ўзвышша.

Дзеля гэтага не зачыняйце вачэй на ўсім нам свомыя заганы й слабасьці, ня стаўцеся ўлегцы да неаднаразовых памылак, а пакаяўшыся перад Богам, знайходзьце ў сабе мудрасьць і навагу перамагаць блага.

Не чакайце бяды, каб тады адно наракаць, ці зварочвацца да Бога з малітваю, але дзякуйце Яму й упрашайце Ягонае Ласкі, ды заслугоўвайце на Яе ўчынкамі штодня, а Яна будзе Вам дадзеная.

Не адварочвайцеся грэбліва ад царкоўных вымогаў і ад бацькоўскіх звычаяў, каб не апынуцца ў духовай пустэчы й бездарожжы; ня цурайцеся посту й меры ў спажытку ўвесь час, каб ня шукаць ратунку ў лекараў, калі стане ўжо позна.

Ды не ў адных сабе, і аб сабе адно думаючы, рабеце перадсьвяточны парадак.

Паглядзіцеся ўвокал, у Вашым сямейным коле, сярод прыяцеляў і знаёмых, ці не патрабуе хто добрага слова, выяву хрысьціянскае любасьці, суцехі, падбадзёраньня, а нат якім дабром дапамогі?

Ды яшчэ, успомніўшы, як нашыя бацькі гэтай парою спраўлялі новае адзеньне, прыбіралі хату й чысьцілі панадворак, бо ня можа быць сьвята й годнага жыцьця ў брудзе, нядоглядзе й занядбаньні, рабеце не адступаючыся ўсё залежнае ад Вас, каб ня толькі ў Вашых гасподах, але й на Вашай вуліцы, ды ў ваколіцы, а таксама ў цэлым нашым Краі ўскрозь былі парадак і краса, ды пашана да ўсяго, што Бог стварыў на нашую карысьць.

Урэшт вазьмеце на ўвагу, што пакаленьне, у якім Вы зьявіліся на сьвет, Бог зь Ягонае Мудрасьці выбраў, каб ушчадрыць Ласкаю, якое ня мелі бацькі й дзяды, а гэта нашай незалежнай Дзяржавай.

Але гэтая Ласка дадзеная не задарма, а пастаўленая перад намі, як выпрабаваньне нашае вартасьці.

Дык ня будзьце абыякавыя да таго, што ў гэтай Дзяржаве робіцца, каб яе ня страціць, а выбірайце на кіраўнічыя становішчы людзей, якія нашую Бацькаўшчыну любяць і хочуць Ёй сумленна служыць, а не прадаваць Яе на свой прыбытак мажным суседзям.

А разам з гэтым не забывайцеся, што ня можа быць свае Дзяржавы, ані ў ёй дабра, без свае Праваслаўнае Царквы, якая, вызнаючы Знайвышні Наказ, паважала-б наш створаны Богам Народ з усімі дадзенымі яму асаблівасьцямі ды йимкнулася-б гэтыя духовыя багацьці памнажаць.

Усё гэта выканаць і верна служыць Богу, ды Беларускаму Народу ставіць сабе мэтай толькі Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, а таму ў Сьвята Хрыстовага Ўстаньня з Умерлых прысягнеце ў Вашых сэрцах далажыцца Вашымі наважнымі й ахвярнымі ўчынкамі да Ейнага ўзнаўленьня на нашай Бацькаўшчыне.

Няхай-жа ў Вашых думках, імкненьнях і добрых справах кіруе, ды зарукай іхняга збыцьця будзе наш Збавец Ісус Хрыстос, што

ЗАПРАЎДЫ ВАСКРОС!

+ Ізяслаў
Мітрапаліт і Першагерарх
Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы



## ПСАЛЬМ 73 /74/

/Пераказ/

Няўжо Ты, Божа, зрокся нас,
Няўжо ўзлаваў бяскрайна
На гурт пакорлівых ягнят,
Што пасьвіў гэтак дбайна?!

Народ згадай, што быў абраў
За свой з усіх плямёнаў
I край, дзе свой Ты ўзьнёс пасад
На высачы Сыёну.

Зыйдзі й дабро агледзь ускрозь
З варожых рук у зрыньні,
Дзе ўмест прасьбы быў глум чуцён
У зьняважанай сьвятыні

Й над ейнымі дзьвярыма ўзьдзек
Няверчы сьцяг быў ўзьняты -
За час над ім што мелі верх
Браў вораг з нас заплату.

Сякерамі з бажнічых сьцен
Ўвабраньне ўсё зрубалі
Й Твае хвалы харом усьлед
Вагнём дазем зраўналі.

Ў навазе конча нас зламаць
Спалілі ўсе сьвятыні
Й няма прарока, даў каб знак
Збаўленьня нам гадзіны.

Дакуль-жа будзе вораг дуж
Табе ўчыняць абразу,
Чаму ўпыняеш Ты руку
Й ня шлеш яму паразу?!

Ты, Божа, наш Ўладар усьцяж,
Збавец зь бяды заўсёдні,
Праз мора нам працяў быў шлях,
Гадзюкаў зьвёў падводных.

Яшчуравы галовы сьцёр,
На жыр іх даў зьвярыне,
Крыніцы выпаўніў вадой,
Ссушыў рачныя плыні.

Начэй і дзён Ты Гаспадар,
Ты ўзьняў сьвятло ды сонца,
Канцы зямляныя паклаў
Ды зімаў й лет Ты Створца.

Чаму-ж, о, Божа, церпіш глум
Зьзьвярэлага натоўпу,
Ня шлеш ратунку нам дасюль,
Ў вадказ прасьбам замоўкнуў?!

Прырок, што ўветаш даў, стрымай:
Разбою сьціш навалу,
Ад згубы й сораму ўкрый нас
На Імя Твайго пахвалу!

За справу собскую Ты стань,
Адпомсьць насьмех варожы,
Раўнёю тым, што твораць гвалт
Ўчыні адплату Божа!

Пераказаў
Барыс Данілюк

## ВЯЛІКОДНЫЯ Й ЛЕТНІЯ АДПРАВЫ

Перад Вялікаднем, на ўспамін урачыстае сустрэчы пры ўваходзе ў Ярузалім нашага Гаспадара Ісуса Хрыста, у Вербную нядзелю, I6-га красавіка г.г. /паводле новага стылю, як і ўсе даты ніжэй/ падчас Сьв. Літургіі, што пачнецца а 9.оо-й г. раніцы, будзе асьвячэньне вербаў.

Далей, у цярпенным тыдні, парадак адправаў вызначаны наступна:

Вялікі Чацьвер, 20-га красавіка г.г. - Успамін Хрыстовых Мукаў /I2 Эвангельляў/ - пачатак а г. 6.оо-й увечар.

Вялікая Пятніца, 2I-га красавіка г.г. - Вячорня й вынас плашчаніцы на ўспамін Хрыстовых Паховінаў - пачатак а 6.оо-й г. увечар.

Вялікая Сыбота, 22-га красавіка г.г. - Паўночніца - пачатак а г. II.30 увечар.

ВЯЛІКДЗЕНЬ, нядзеля, 23-га красавіка г.г. - Крыжны Ход і Зараньня, ды ўсьлед Сьв. Літургія - пачатак а I2-й г. уначы. Пасьля адправаў - асьвячэньне пасхаў.

Тамашовая нядзеля, 30-га красавіка г.г. - пасьля Сьв. Літургіі паніхіда за супакой памерлых.

Радаўніца - аўторак, 2-га траўня г.г. - маленьне за спачылых на могільніку ў Іст Брансвіку - пачатак а г. I0.30 раніцы.

Пасьля Радаўніцы важнейшыя сьвяты, што адзначаліся здаўна на нашай Бацькаўшчыне, наступныя:

Юр'е - сыбота, 6-га траўня.

Сьв. Кірылы Тураўскага - чацьвер, II-га траўня.

Зьяўленьне Йконы Божае Маці ў Жыраве - сыбота, 20-га траўня.

Мікола /вяснавы/ - панядзелак, 22-га травевеня.

Ушэсьце - чацьвер, I-га чырвеня.

Сьв. Еўфрасіньні Полацкае - панядзелак, 5-га чырвеня.

СЁМУХА - нядзеля, II-га чырвеня. Адразу пасьля Сьв. Літургіі адумысловая вячорня.

У панядзелак, I9-га чырвеня, пачатак посту, што трывае да дня памяці Сьв. Апосталаў Пётры й Паўла, у сераду, I2-га ліпеня.

Нядзеля 2-я пасьля Сёмухі, 25-га чырвеня г. г. - Чэсьць Памяці СЬВЯТЫХ БЕЛАРУСКАЕ ЗЯМЛІ ДЫ СЬВЯТА АЎТАКЕФАЛІІ БЕЛАРУСКАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ.

Яна /Нараджэньне Ўпярэдніка й Гаспадаровага Хрысьціцеля Яна/ - пятніца, 7-га ліпеня.

Нядзеля, I3-га жніўня - пачатак Усьпенскага посту.

Спаса - сыбота, I9-га жніўня.

Усьпеньне - панядзелак, 28-га жніўня.

Сьв. Літургія ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне пачынаецца кожнае нядзелі а 9.оо-й г. раніцы.

Адправы ў сьвяты, што прыпадаюць у тыдні, а таксама дадатковыя адправы ў нядзелі, ці зьмены ў іх, абвяшчаюцца загадзя з амвону ў царкве.

Вячорныя адправы, апрача пададзеных гэтта вышэй, дзеля цяжкасьці даезду парахвіянаў і кліру, часова спыненыя.

Кожнае нядзелі праз цэлы год, перад пачаткам Сьв. Літургіі, ад 8.30 да 9.оо-е г. раніцы, можна спавядацца.

У гэтым самым часе, або яшчэ лепш на колькі дзён раней, можна таксама замаўляць паніхіды й малебны, ды падаваць сьпіскі на ўспаміналньне.

Наведвайце сваю родную Сьвятыню!

## АДПРАВЫ Ў ЦАРКВЕ СЬВ. ДУХА Ў ІСТПОЙНЬЦЕ

Сьв. Адправы ў Царкве Сьв. Духа ў Істпойньце, што каля Дэтройту ў штаце Мічыгэн, кожнае нядзелі й у сьвяты, пачынаючы а I0.оо-й г. раніцы, выконвае В.Г.А. Архімандрыт Інакент.

Вячорні ў сыботы й конадні сьвят пачынаюцца а 6.оо-й г. увечар.

Парадак Сьв. Адправаў у цярпенным тыдні й на Вялікдзень пададзены ў парахвіяльным бюлетэні, або можна даведацца па тэлефоне /8I0/-776-4487.

Месячны парахвіяльны бюлетэнь можна атрымаць пры наведаньні царквы, што знайходзіцца на 14873 Collinson Avenue, Eastpointe, MI 48021-2861.

## З ЖЫЦЬЦЯ БАПЦ І ПАРАХВІІ

### СУСТРЭЧА З АРХІЯПІСКАПАМ УПЦ

У сувязі з увaходам Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША пад апеку Сусьветнага Патрыярхату, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, пасьля падарожжа украінскіх япіскапаў у Канстантынопаль, наведаў 21-га сакавіка г.г. Эвсьв. Антонія - архіяпіскапа Нью Ёркскага й Вашынгтонскага ў ягонай гасподзе ў Украінскім Праваслаўным Цэнтры ў Баўнд Брук, Н.Дж. ды меў зь ім прысьвечаную нядаўнім падзеям у УПЦ гутарку.

Ул. Антоні шчодра падзяліўся зь Я.М. Мітрапалітам Ізяславам усімі інфармацыямі, якія яго цікавілі.

### 77-я ЎГОДКІ АКТУ 25-га САКАВІКА

З нагоды 77-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі Актам 25-га Сакавіка 1918 г., у нядзелю, 26-га сакавіка г.г., у Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, пасьля Сьв. Літургіі Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў адправіў малебен за захаваньне свабоднае дзяржаўнасьці Беларусі й збаўленьне Беларускага Народу ад навалы нявoлі, ды сучаснае бяды й нястачы.

### ПРЫВІТАНЬНІ Й НАЙЛЕПШЫЯ ПАЖАДАНЬНІ

Нядзеля, 19-га сакавіка г.г. адзначылася ў жыцьці парахвіі балючай падзеяй, у гэты бо дзень давялося разьвітацца зь дзейнымі й ахвярнымі парахвіянамі, спадарствам Алінай і Джынам Лысюкамі, якія зь незалежных ад іх прычынаў, што склаліся ў жыцьці, назаўтра выехалі на сталы побыт у Фларыду.

Сп-ва Аліна й Джын Лысюкі, як гэта ўжо адзначалася ў "Царкоўным Пасланцы", ведамыя актыўныя працаўнікі на беларускай нацыянальнай ніве яшчэ з пачатку іхняе дзейнасьці ў Згуртаваньні Беларускае Моладзі ў ЗША, а ў сталым веку з творчага ўдзелу ў жыцьці парахвіяў БАПЦ у Гайлэнд Парку ды Брукліне, а ў выпадку сп. Лысюка таксама й у Радзе, ды Кансысторыі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Няма словаў, каб належна ацаніць уклад, што яны зрабілі ў парадак і дабрабыт Парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, ды Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы наагул, а таксама прыемнасьць і падбадзёраньне, якія адчуваліся ў працы побач зь імі ды перадаваліся іхнім супрацоўнікам.

Таму й падчас апошняе Сьв. Адправы, на якой яны былі прысутныя, усе маленькікі горача прасілі Божае ім Помачы й Апекі ў далейшым жыцьці на новым асельлі, ды пасьля доўга не маглі зь імі разьвітацца.

Выяўляючы агульную думку, рэдакцыя "Царкоўнага Пасланца" яшчэ й гэтта выказвае ім гарачую падзяку за ўсё нязьлічонае дабро, што яны зрабілі ў нашай Царкве й грамадзе, ды жадае з Божае Ласкі добрага здароўя, жыцьцёвых удачаў і шмат шчасьлівых год!

Не забывайцеся, Дарагія, на нас!

- - -

20-га сакавіка г.г., асягнуў 80 год жыцьця заслужаны вернік Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й дзейны парахвіянін Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне сп. Мікалай Войтэнка.

Юбіляр, пачынаючы яшчэ з Бацькаўшчыны, цэлае ягонае жыцьцё быў творчым працаўніком на беларускай адраджэнскай ніве.

Асабліва вялікі ўклад ён зрабіў у ўзнаўленьне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на чужыне, сьпярша праз удзел у Канстанцкім Саборы, а ўсьлед працай пры стварэньні парахвіяў БАПЦ у францускай зоне Нямеччыны.

Апынуўшыся ў ЗША ён і гэтта, жывучы ў штаце Нью Джэрсы, становіцца дзейным будаўніком арганізаванага грамадзкага й царкоўнага жыцьця беларускае эміграцыі.

Пры ягоным актыўным удзеле закладаюцца мясцовыя адзьдзелы БАЗА й вэтэранскае арганізацыі, ды ствараецца Парахвія БАПЦ у Гайлэнд Парку, якая неўзабаве купляе й свой могільнік.

Нажаль 15-ць год назад варожая падкрада патрапіла выклікаць закалот у Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве, нацкаваць немалую частку вернікаў супраць свайго япіскапату й спакусіць некаторыя парахвіяльныя выконныя органы на шлях некананічных дзеяньняў.

Зразумелая рэч, што, каб Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква засталася запраўднай царквою, верны ягонаму пакліканьню япіскапат, духавенства й вернікі не маглі не бараніцца ад авантурніцкіх дзеяў разагітаваных варожымі намовамі парушальнікаў царкоўнага парадку.

У гэтай абароне законнасьці ў нутраным жыцьці нашае Царквы, а гэтым самым і Ейнага існаваньня як запраўднае рэлігійнае задзіненьне, а не палітычны фронт, або цывільны клюб, сп. Мікалай Войтэнка бяз хістаньня адразу заняў месца па баку праўнае царкоўнае ўлады й не адступае ад свайго выбару, ня гледзячы на вынікл ыя з гэтага няпрыемнасьці, страты й намаганьні.

І якраз у гэтых намаганьнях захаваць сваю родную Царкву, займаючы становішчы ў Радзе БАПЦ ды ў Парахвіяльнай Радзе Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага, выяўляе ён багацьце дораных яму зь неба высокіх якасьцяў характару, за якія так высока цэняць яго ўсе тыя, каму пашчасьціла мець зь ім дачыненьні.

Няхай-жа Бог ушчадрыць яго добрым здароўем, памысьнасьцяй у намерах і доўгім яшчэ лікам дзейных год на карысьць ягонае сям'і, ды нашае Царквы й Бацькаўшчыны!

### ДАПАМОГА БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗЫІ Ў ВІЛЬНІ

На зварот па дапамогу ад Дырэкцыі Беларускае Гімназіі ў Вільні, дзякуючы дбайнасьці праз гэтую справу сп. Пётры Манькоўскага й ахвярнасьці парахвіянаў Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, дасюль сабрана на падтрымку гэтае навучальнае ўстановы 270.оо дал.

Гэтыя грошы былі ўжо часткава высланыя на адрыс школы, ад дырэкцыі якое атрыманая лістоўная падзяка.

Рэшта дапамогі будзе высланая пасьля заканчэньня збору ахвяраў на гэтую мэтунняўздоўж па Вялікадні.

### СУМНЫЯ ЎГОДКІ

Сёлета, 9-га чырвеня, збываюцца 25-я ўгодкі сьмерці ў 1970-м годзе Сьв. Пам. Я.М. Архіяпіскапа Васіля.

З гэтае нагоды ў нядзелю, 4-га чырвеня, у Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў адправіць паніхіду за супакой душы спачылага архіпастыра.

Таксама сёлета, 29-га ліпеня, настануць 35-я ўгодкі сьмерці заснавальніка й першага кіраўніка Парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне Сьв. Пам. Мітр. Прат. А. Хведара Данілюка.

З гэтае прычыны ў нядзелю, 30-га ліпеня, у Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў адправіць паніхіду за спачын душы

памерлага.

Заклікаем вернікаў БАПЦ і беларускае грамадзтва прысутнасьцяй на адправах у гэтыя дні ўшанаваць памяць гэтых будаўнікоў нашае Сьвятое Царквы.

## ПАДЗЯКА

Парахвіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне выказвае шчырую падзяку за атрыманыя на выданьне "Царкоўнага Пасланца" ахвяры ад наступных асобаў: сп-ва Б. і М. Данілюкі - 48.43 дал., сп-ва М. і А. Войтэнкі - 10.оо дал., др. Р. Гарошка - 20.оо дал., сп-ва Ю. і Б. Касьцюкевічы - 10.о дал., сп. Я. Кузьменка - 5.00 дал., а. ппрсв. А. Кулакоўскі - 5.оо дал., сп-ва Дж. і А. Лысюкі - 10.оо дал., Н.Н. - 50.00 дал., сп-ня О. Яськевіч - 15.оо дал.

Спадзяемся, што ў будучыні іхнім сьледам пойдзе яшчэ больш чытачоў "Царкоўнага Пасланца".

## НЯЎДАЛАЯ СПРОБА СТВАРЫЦЬ АМЭРЫКАНСКУЮ АЎТАКЕФАЛЬНУЮ ПРАВАСЛАЎНУЮ ЦАРКВУ

Ужо каля трыццаці год існуе ў ЗША г.н. Няспынная Канфэрэнцыя Кананічных Праваслаўных Япіскапаў у Амэрыцы (SCOBA = Standing Conference of Canonical Orthodox Bishops in America), што служыць кантактавым злучвом часткі япіскапітаў розных праваслаўных юрысдыкцыяў.

Гэтае злучво ня згуртавала, нажаль, япіскапаў усіх Праваслаўных Цэркваў у ЗША з тае прычыны, што удзельнікі Канфэрэнцыі за азнаку кананічнасьці вызнаюць адно фармальную падданасьць, або падобнага роду сувязь япіскапаў амэрыканскіх юрысдыкцыяў з сынодамі цэркваў зь дзяржаваў іхняга паходжаньня.

У практыцы гэта раней і дасюль значыць талеранцыю й патураньне выслужнасьці й супрацоўніцтва кіраўнікоў ці-аднае з гэтых краёвых цэркваў зь бязбожнымі, недэмакратычнымі і захопніцкімі рэжымамі ў дзе-якіх дзяржавах.

З гэтага фармалістычнага падыходу да кананічнасьці йдзе й тое, што замест цэнзуры, а нат выдаленьня з удзелу ў SCOBA сплямленых калябарацыяй з атэістычнымі й таталітарнымі рэжымамі царкоўных юрысдыкцыяў, у гэты хаўрус не па-хрысьціянску быў зачынены ўступ цэрквам зьняволеных народаў, як БАПЦ і УПЦ.

Летась увосень гэтая Канфэрэнцыя на ейным зборы ў Лайгонайр, што ў Пэнсылвініі, пастанавіла задзініць усе этнічныя праваслаўныя юрысдыкцыі ў ЗША ў вадну адміністрацыйна суцэльную царкву.

Умовай ужыцьцяўленьня гэтае пастановы мае быць, аднак, згода паасобных краёвых цэркваў-матак, дзеля чаго й ня быў вызначаны тэрмін запланаванага зьліцьця.

Спадзявацца, усё-ж, што гэныя цэрквы-маткі з прыхільнасьцяй паставяцца да намеру ўстанаўленьня адзінае амэрыканскае аўтакефальнае праваслаўнае царквы не даводзіцца.

Найлепшым довадам на гэта можа быць прэсавае паведамленьне Канстантынопальскага Патрыярхату з 31-га студзеня г.г., дзе прыйнятыя ў Ланганайры пастановы абвяшчаюцца няважнымі й падаецца цытата зь пісьмовага зароку старшыні SCOBA грэцкага архіяпіскапа Якаваса, што ён ня браў, ды нат і ня думаў браць удзелу ў фармаваньні аўтакефальнае Амэрыканскае Праваслаўнае Царквы.

## УКРАІНСКАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА Ў ЗША ПАД АПЕКАЙ СУСЬВЕТНАГА ПАТРЫЯРХАТУ

Атрыманае нядаўна з Кансысторыі Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША прэсавае паведамленьне падае, што ў выніку пасьпяховых размоваў, якія адбыліся ў Канстантынопалі, паміж герархамі Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША й Дыяспары, ды Сусьветным Патрыярхам Барталамеям І-м, на ягоныя-ж запросіны, Рада Мітраполіі УПЦ у ЗША на паседжаньнях 2-4-га лютага г.г. ухваліла рэкамэндацыю япіскапату падацца пад апеку Канстантынопальскае Сусьветнае Патрыярхіі й гэткім чынам зайняць належнае месца ў Сусьветным Праваслаўі, ды вярнуць сабе прывілеі, якімі УПЦ карысталася да ейнага падпарадкаваньня Маскоўскай Патрыярхіі ў XVII стагодзьдзі.

Пасьля прыйма Радай Мітраполіі вышэй пададзенае рэкамэндацыі япіскапату, герархі УПЦ у ЗША і УАПЦ у Дыяспары былі запрошаныя ў Канстантынопаль, дзе ў Нядзелю Праваслаўя, 12-га сакавіка г.г., пад ачольлем Патрыярха Барталамея І-га адправілі Сьв. Літургію й прыйнялі з патрыяршых рук Сьв. Прычасьце.

Герархію УПЦ у Канстантынопаль суправаджала звыш 40-ка асабовая дэлегацыя сьвятароў і вернікаў - сяброў Рады Мітраполіі.

Праз пастанову УПЦ у ЗША падацца пад апеку Сусьветнае Патрыярхіі, падчас асабістага наведаньня адным з амэрыканскіх япіскапаў, былі паведамленыя абедзьве украінскія юрысдыкцыі на Бацькаўшчыне, г.зн. УПЦ - Кіяўскі Патрыярхат і Патрыярхат УАПЦ.

Іхнія першагерархі прыйнялі вестку пазытыўна, уважаючы зробленыя УПЦ у ЗША крокі за поступ у кірунку забясьпечаньня належнага месца сярод Праваслаўных Цэркваў у сьвеце таксама й Украінскай Праваслаўнай Царкве ў Краі.

## ТЭМПЛЕТОНАЎСКАЯ ЎЗНАГАРОДА ЗА ПРАГРЭС У РЭЛІГІІ

У 1973-м годзе ангельскі інвэстыцыянэр сэр Джон Тэмплетон, уважаючы, што Нобляўскія прэміі недагляднa абыходзяць разьвіцьцё рэлігійнае думкі, устанавіў узнагароду, якую штогод мае атрымоўваць асоба, якая найвыдатней выявіць прагрэс у зразуменьні Бога й духовасьці.

Ён таксама ўстанавіў, што ягоная ўзнагарода мае быць вышэйшая сумай грошай за Нобляўскія прэміі.

Ад устанаўленьня ўзнагароды яе атрымалі ўжо, між іншымі, матухна Тарэза, прапаведнік Біллы Грэгам, галоўны вялікабрытанскі рабін лорд Джакабовіч, нэа-кансэрватыўны інтэлектуал Майкэл Новак, ды некалькі вучоных дасьледнікаў, у тым ліку й фізыкаў.

Сёлета Тэмплетонаўская ўзнагарода, звыш 1,000,000 дал., зноў прызнаная фізыку, дру. Полу Дэйвісу, прафэсару натуральнае філязофіі Адэляйдзкага Унівэрсытэту ў Аўстраліі.

У ліку дзевяці судзьдзяў, што прысудзілі ўзнагароду былі, м.інш., б. прэзыдэнт Джордж Буш і б. брытанская прэм'ер-міністрыня Маргарэта Тачэр.

Праф. Дэйвіс аўтар звыш 20-ці кнігаў, у тым ліку "Божы Помысл" ("The Mind of God", Simon & Schuster, 1992), у якой ён разглядае думкі праз паходжаньне сусьвету, парадак у прыродзе ды сутнасьць людзкое сьведамасьці.

Ён уважае, што наўсуперак пашыранага пагляду аб заніку рэлігіі ў выніку прагрэсу навукі, якраз дакладнейшае дасьледаваньне сусьвету паказвае на мэту, або плян ува ўсім чыста, ды, што няма разрыву паміж навукай і багаведамі /багасловама/, а ёсьць, нажаль водступ між багаведамі, ды звычайнымі вернікамі.

Неўзабаве маюць выйсьці дзьве новыя кнігі праф. Дэйвіса: "Аб Часе" ("About Time"), праз парадоксы часу, і "Ці Мы Самыя?" ("Are We Alone?"), праз значаньне, якое адкрыцьцё пазаземнага жыцьця ў сусьвеце магло-б мець для навукі й рэлігіі.

## НЯЎЗВАЖАНАЯ ПРАПАНОВА

У наш век, хоць да іхняга ўсюднага шанаваньня яшчэ далёка, усё-ж шмат увагі прысьвячаецца правом чалавека, ад чаго й растуць магчымасьці абароны адзінкі ад несправядлівасьці з боку асяродзьдзя, у якім яна знайходзіцца.

Нават у Беларусі Дэклярацыя Правоў Чалавека апублікаваная й ведамая, ды зьмест гэтага дакумэнту няраз успамінаецца - нажаль, больш за ўсё ў жальбах на ягоныя парушэньні.

Выглядае, аднак, што ў самой Дэклярацыі Правоў Чалавека, а таксама й у практыцы ейнага выкананьня не хапае аднаго разьдзелу, а пайменна - аховы годнасьці нябожчыкаў ад спробаў добразычлівых, а неразважных паклоньнікаў зрабіць зь іх /балазе ня трэ пытаць згоды/ звышнатуральныя, а нат і надзеленыя божнімі якасьцямі йстоты.

Найчасьцей, ведама, довадаў на гэткае ўзвышэньне не стае й тыя, што яго прапануюць, думку закідаюць ды сьціхаюць, а, вось, вокал памяці памерлых надоўга застаецца, бязь іхняе віны, нязусім сур'ёзная атмасфэра.

Патрэба гэткае аховы раптам выстыркнула ўжо й у нас, а на прыклад ейнае насьпеласьці можна ўзяць зьмешчаны ў леташнім сьнежаньскім нумары "Беларуса" артыкул сп-ні Валянтыны Трыгубовіч п.н. "Мучаніца Ларыса Геніюш".

Нельга не згадзіцца з аўтаркай артыкулу ў ейным апісаньні высокага патрыятызму паэткі, бескампраміснае яго практыкі й выніклага з гэтага духовага й фізычнага мучаніцтва.

Ня можа быць і сумневу, што ейная творчасьць, а таксама чысьціня й ахвярнасьць ейнага жыцьця будуць узорам для наступных пасьля нас пакаленьняў.

У ваблічы гэтае пашаны няма сумневу, што калі-б была яшчэ й патрэба на фармальную працэдуру ўзвышэньня нацыянальных мучанікаў у цывільныя сьвятыя, ды яна йснавала, Ларыса Геніюш гэтай чэсьцяй была-б увенчаная.

Калі, аднак, ставіцца пытаньне, як гэта робіць сп-ня Трыгубовіч, каб вызнаць нашую нацыянальную гераіню за сьвятую рэлігійнага, або царкоўнага значаньня, ці, інакш кажучы, каб яе кананізаваць, гэткая прапанова ня йдзе, ані на карысьць чыстае памяці змагаркі, ані на прыбытак нашае нацыянальнае годнасьці.

Глыбокая пабожнасьць паэткі, як частковая прычына ейных духовых і фізычных цярпеньняў, ды апора ў перажываньнях, якой ёй вера ў Бога служыла, не мяняюць факту, што яна была дзеячкай і пакутніцай перш за ўсё і галоўным чынам нацыянальнай.

Таму, дзеля павагі рэлігійных і нацыянальных пачуцьцяў, неразважна прапанаваць, ці настойваць на правалоку праз працэс кананізацыі й без таго ўсьвячанае памяці гэтае высокае годнасьці жанчыны.

Залік у сьвятыя выдатных у будове маскоўскае імпэрыі дзяржаўных, ваенных, а нат і псэўда-рэлігійных дзеячоў Расейскай Праваслаўнай Царквою, не павінен быць узорам для нашае царкоўнае практыкі, а, наадварот, прымусіць да перагляду сьпіску расейскіх сьвятых, што шануюцца ў нашым краі.

Гэткім чынам чэсьць дагодных Богу сьвятых і пашана нацыянальных герояў стануць на свае месцы й ні ў ваднэй зь іх ня будзе сумневу.

Іншае думкі на гэтую справу, відаць, сп-ня Зора Кіпель, якая ў артыкуле "Мучаніца Ларыса Геніюш - Сымбаль", што быў зьмешчаны ў студзеньскім нумары "Беларуса", выступіла з падтрымкай прапановы сп-ні Трыгубовіч.

У артыкуле сп-ні Кіпель наагул няма ніякага ўспаміну праз веру ў Бога Ларысы Геніюш, выяваў пабожнасьці ў жыцьці й творчасьці паэткі, ейнага дакладу да ўстварэньня нацыянальнага характару рэлігійнага жыцьця Беларускага Народу.

Затое яна з уздымам і працягла гаворыць амаль вылучна праз значаньне жыцьцёвага прыкладу й творчасьці гэтае сьветлае асобы дзеля захаваньня нацыянальнае сьведамасьці й волі да вызвольнага змаганьня беларускае эміграцыі.

Вылічыўшы ўсе гэткія, на ейную думку ўважлівыя, прычыны да кананізацыі, аўтарка артыкулу, зь няўпэўненасьці, відаць, на іхнюю эфэктыўнасьць, загадзя крыўдзіцца на неназваную ёю праваслаўную царкву ў Беларусі за няўвагу да ейнае прапановы.

Ёй, бяз сумневу, ня трэба казаць, што адзінай, вызнанай уладай за гэткую і дазволенай, праваслаўнай царквою ў Беларусі ёсьць Экзархат Маскоўскага Патрыярхату, прадбачаную сп-няй Кіпель няўвагу якога да ейнае прапановы, аднак, не абавязкава трэба тлумачыць ягоным адмоўным стаўленьнем да нашых нацыянальных сьвятасьцяў.

Неабгрунтаванае, у сьвятле пададзеных вестак, пытаньне кананізацыі Ларысы Геніюш б'е, аднак, рыкашэтам па нашай патрыятычна настроенай Праваслаўнай Царкве, што раней, ці пазьней будзе ўзноўленая ў Беларусі, і якая, дзеля гэтае-ж неабгрунтаванасьці прапановы ейнымі падаўніцамі, інакш, як адмоўна, паставіцца ня зможа.

Гэтае неабгрунтаванасьці сп-ня Кіпель, аднак, не бярэ на ўвагу, а, мабыць неўзнарок, складае віну за няўдачу на Праваслаўную Царкву ў Беларусі, якой яна ня была-б.

Злажыўшы гэты адмоўны вынік зь нясур'ёзнай, а таму й дарэмнай, ды непатрэбнай мітусьнёю вокал памяці Ларысы Геніюш, што ўзьнялася зь няўзважанае прапановы ейнае кананізацыі, лепш было-б, каб гэткая прапанова наагул ня ставілася.

## З ПАШТОВАЕ СКРЫНКІ

У папярэднім, выдадзеным на Каляды 1994-га году №-ры 2/34/44 "Царкоўнага Пасланца" на 4-й бачыне была зьмешчаная летапісная зацемка "Сустрэча з прадстаўніцай БНФ".

З увагі на тое, што гэная зацемка выклікала лістоўнае запярэчаньне часткі ейнага зьместу успомненай там прадстаўніцай БНФ, сп-няй Валянтынай Трыгубовіч, лічым патрэбным пазнаёміць нашых чытачоў з думкамі гэтае паважанае асобы, дзеля чаго й перадрукоўваем ніжэй у цэласьці атрыманага ад яе ліста, адсякаючы адно фірмовы загаловак БНФ.

Перш, аднак, каб нашым чытачам лягчэй было зразумець прычыны выніклае супярэчнасьці, перапісваем і тэкст самое зацемкі.

Далей, канечна, падаем таксама й адказ сп-ні Трыгубовіч на ейнага ліста ад другога ўдзельніка сустрэчы сп. Барыса Данілюка.

### СУСТРЭЧА З ПРАДСТАЎНІЦАЙ БНФ

16-га жнівеня г.г. сябра Кансысторыі БАПЦ сп. Барыс Данілюк сустрэўся, падчас ейнага побыту ў ЗША, з кіраўніцай аддзелу вонкавых дачыненьняў Беларускага Народнага Фронту сп-няй Валянтынай Трыгубовіч.

Сустрэча адбылася ў прыватным памешканьні ў Самэрсэт. Н.Дж.

У даволі працяглай гутарцы была закранутая сучасная палітычная й эканамічная сытуацыя ў Беларусі, а таксама дзейнасьць гэнам Экзархату Маскоўскае Патрыярхіі ды ўрэшт дачыненьне БНФ да Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Нажаль да ніякага паразуменьня ў царкоўных справах не ўдалося дайсьці з прычыны адсутнасьці знаку якое-колечы палітычнае паставы й цікаўнасьці БНФ да ўзнаўленьня беларускае нацыянальнае праваслаўнае царквы, і замена гэтых элемэнтаў у ягонай дзейнасьці спадзяваньнямі сп-ні Трыгубовіч на тое, што з драбніцаў, у якіх паступаецца Мітрапаліт Філарэт, вырасьце родная царква.

Ня былі паможнымі ў гутарцы й пагляды сп-ні Трыгубовіч на Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву,

бяскрытычна перайнятыя ёю ад гаспадароў, у якіх яна гасьцявала.

/"Царкоўны Пасланец", № 2/34/44, сьнежань, I994/

31 студзеня I995 г.

Шаноўны спадар Барыс Данілюк!

Дзякуй за дасланы "Царкоўны пасланец", што выдадзены Вамі ў сьнежні I994 г.

Атрымала яго таксама і ад сяброў зь Нью Ёрку. На вялікі жаль, у надрукаваным кароткім пераказе нашай працяглай гутаркі, што адбылася ў жніўні мінулага году, Вы задалёка адыйшлі ад яе зьместу, тым самым міжволі або сьвядома ўвялі ў зман сваіх чытачоў. Пакідаю за Вамі поўнае права каментаваць мае словы або выказваць уласныя пагляды, мае ж меркаваньні ветліва прашу не перайначваць.

Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" - шырокі грамадзкі рух, у якім дзейнічаюць людзі розных нацыянальнасьцяў, розных веравызнаньняў, нават рознай партыйнай прыналежнасьці. Іх яднае барацьба за незалежную Беларусь, адстойваньне правоў чалавека, клопат аб культуры і мове нашай дзяржавы і г.д.

Рэлігійныя перакананьні кожнага сябра БНФ - яго ўнутраная і недатыкальная справа. Хоць у Фронце найбольш шануюцца людзі, якія маюць глыбокую веру, выпакутаваныя ідэалы, цьвёрдыя прынцыпы, актыўна змагаюцца за іх.

Рэлігійныя дачыненьні як частка грамадзкага жыцьця некалькі разоў былі тэмаю шырокага абмеркаваньня на Сойме, на паседжаньнях палітычнай камісіі. У нашых агульных інтарэсах, вырашана супольна, мірнае суіснаваньне розных канфесій, абавязковае ўжываньне ва ўсіх храмах беларускай мовы, што да праваслаўнай царквы - паўстаньне Аўтакефаліі.

Але, падкрэсьлю, Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква павінна паўстаць намаганьнямі праваслаўных вернікаў і сьвятарства. Ні грамадзкі рух, ні палітычныя партыі гэтага зрабіць ня могуць.

Што да мяне асабіста, то станаўленьню Беларускай праваслаўнай царквы, духоўнасьці, нацыянальнай самасьвядомасьці я імкнуся спрыяць сваёй працай у Беларускім праваслаўным брацтве Трох віленскіх мучанікаў. Стаю на грунце рэальнасьці і бачу, наколькі цяжка адраджаць царкоўнае жыцьцё ў яго традыцыйным выглядзе пасьля дзесяцігоддзяў татальнага вынішчэньня, у зьбяднелай краіне, пры мінімальнай дапамозе звонку. Усіх, каму гэтая справа баліць таксама, шчыра запрашаю да супрацоўніцтва. Веру, што з Божае ласкі асягнем нашыя мэты.

Прашу гэты мой ліст надрукаваць у наступным нумары "Царкоўнага пасланца", а паколькі ён выходзіць нячаста, то копію ліста я дасылаю ў рэдакцыю газэты "Беларус" таксама з просьбаю надрукаваць. Няможна, каб людзі паслугоўваліся няпраўдзівай інфармацыяй пра жыцьцё ў Беларусі і пра дзейнасьць Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне".

Зычу ўсяго найлепшага Вам і Вашай сямьі

**Валянціна Трыгубовіч**

Высака Паважаная Спадарыня Трыгубовіч!

Дзякую за Вашага ліста з 31-га студзеня I995-га году.

Дзякую, перш за ўсё, таму, што кожнаму з нас гэтта на эміграцыі цікава й прыемна атрымоўваць лісты з Бацькаўшчыны, нават тады, калі ў іх пароюю сустракаюцца, як паміж намі, выявы нязгоды ў нейкіх справах.

Дзякую яшчэ й таму, што згеніўшы мяне ў сваім лісьце, а ня будзе дзіва, калі й дзе з кім у размовах, за няпраўднае, быццам, апісаньне ў "Царкоўным Пасланцы" нашае гутаркі на сустрэчы 16-га жніўня I994 г., Вы ўсьлед самыя й абярнулі гэтае зьвінавачаньне ў нішто.

Пішаце бо Вы, што я, нейкім чынам, перайначыў Вашыя мяркаваньні.

Нажаль, а мо й на дабро, Паважаная Спадарыня, не атрымаў я з роду магчымасьці адгадваць людзкія думкі й таму чужыя, у тым ліку й Вашыя, мяркаваньні заўсёды застаюцца мне тайніцай, дзеля якое мушу здавацца на пачутыя словы, якімі гэныя мяркаваньні суразмоўнікі выказваюць.

Пачутых ад Вас словаў я, аднак, у двукосьсях, ці йнакш зусім ня цытаваў, дык як-жа мог я іх зьмяняць і гэтым зьвясьці ў зман чытачоў "Царкоўнага Пасланца"?

Праўда, пачутыя ад Вас словы я, паводле майго зразуменьня камэнтаваў і выказваў на іх мае пагляды, на што Вы мне ў Вашым лісьце ласкава даяцё права, адылі, відаць, з умовай, што гэныя камэнтары й пагляды пойдуць па Вашай мысьлі.

Вось, далей у лісьце Вы заступаецеся за гонар Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" й за высокія людзкія й нацыянальныя якасьці характару ягоных сяброў, хоць я, узноў прачытаўшы маю зацемку, сумневу да гэтых добрых прыкметаў у ёй не знайходжу.

Але ня бачу я ў самой арганізацыі, ані ў ейных сяброх таксама й звышлюдзкое нязмыльнасьці, а таму дзівуе мяне, якім чынам рэлігійныя перакананьні гэных сяброў, як даводзіцца Вас разумець, могуць быць ім перашкодай да навагі на ўстварэньне нацыянальнага характару рэлігійнага жыцьця Беларускага Народу ды стаць завалай у абяртаньні гэтае навагі ў дзейнасьць.

Бо догмы Хрысьціянскае Веры й царкоўныя каноны, на якіх рэлігійныя перакананьні павінны абапірацца, імкненьням будовы рэлігійнага жыцьця з увагай да Богам дадзеных асаблівасьцяў ніводнага народу не пярэчаць, дык адкуль бярэцца, як выглядае, адваротная думка?

Затое нянаскім, а няпраўна замацаваным сёньня ў Беларусі папасным на рэлігійным жыцьці нашага народу царкоўным структурам яны небясьпечныя ды выклікаюць зь іхняга боку дызарыентацыйную рэакцыю, з паверу ў якую, ці з наіўнае павагі да гэтых скампрамітаваных структураў, і родзіцца ў нас параліз дзейнасьці на карысьць сваіх пабожных мэтаў.

Ці-ж няйнакш, як гэтак трэба разумець, няўспомненае ў маёй зацемцы Вашае пытаньне падчас сустрэчы: як гэта БАПЦ, змагаючыся супраць разбуральнае дзейнасьці М. Мацукевіча, спадзяецца выпраўдаць Ейную апазыцыю да ўлады Экзархату Маскоўскае Патрыярхіі ў нашым Краі?

Ды, ці ня з гэтае самае прычыны вядуцца дабразычлівыя разважаньні на Соймах і ў камісіях БНФ, ды прыймаюцца няменш добранамерныя пастановы ў рэлігійных справах, а ніякага нарысу дзейнасьці ў іх не прадбачыцца.

Дарма бо чакаць якое зьмены на лепшае ў рэлігійным жыцьці нашага Народу, як прыкладам аўтакефаліі Праваслаўнае Царквы, калі спадзявацца, што гэтыя зьмены будуць асягнутыя намаганьнямі адных вернікаў і ніжэйшага духавенства ў нутры заселых у нас, а няпрыязных царкоўных структураў, кіраўніцтва якіх мае абсалютную духоўную ўладу над гэтымі-ж вернікамі й духавенствам.

Мне пашчасьціла быць дзе сьведкам, а дзе й удзельнікам падзеяў, што завяршыліся ўзнаўленьнем аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы сьпярша ў 1942-м годзе, ды, калі здрадны япіскапат яе зьліквідаваў, яшчэ й у 1948-м годзе - асягненьняў, якія даюць навуку й нашаму цяперашняму адраджэнскаму пакаленьню.

А гэтая навука паказвае, што бяз націску грамадзкае думкі, бязь цікаўнасьці да гэтае справы дзяржаўнае ўлады, бяз захадаў у гэтым кірунку патрыятычных арганізацыяў ды адзінак, магчымасьці стварыць аўтакефалію прыхільным

да яе вернікам і духавенству не здабыць.

Надзея-ж, што калабарацыя з Экзархатам Маскоўскае Патрыярхіі, праз удзел у дазволеных ім нацыянальных, быццам, падбудоўках, ці моўных прынадках у сталічнай парахвіі, якімі, як фігавым лістком, ён засланяе русыфікатарскі сэнс ягонага йснаваньня, ды да чаго Вы запрашаеце, вядзе якраз тымі самымі сьцежкамі, што па іх у міжваенныя гады БНР-аўскія й грамадаўскія дзеячы беглі будаваць беларускі дом у савецкай Беларусі.

Ды й не карыстаецца Вашае захапленьне думкай рэфармацыі Экзархату, як Вы самыя ў нашай гутарцы сказалі, сымпатыяй у самым БНФ-аўскім кіраўніцтве.

Знайсьці, аднак, нешта натхняльнае й канструктыўнае на гэтае месца яно не патрапляе, з чаго й выйходзяць гэткія кур'ёзы, як пакорная пойсьць лідэра БНФ сп. Зянона Пазьняка праз паабіваныя эміграцыйнымі "дзеячамі" парогі менскае мітрапалічае рэзыдэнцыі па спагад у прэзыдэнцкіх выбарах.

Успомніўшы да таго, што сп. Пазьняк, падчас ягонага побыту ў ЗША, не абазваўся нат словам на запросіны сустрэцца зь ім ад Я. М. Мітрапаліта Ізяслава, ды й Вы адмовіліся ад гэткае сустрэчы, калі я яе запрапанаваў, напрошваюцца пытаньні: адно - якія запраўдныя, незразумелыя збоку, мэты хаваюцца за афронтам да галавы БАПЦ, а другое - калі Вы гэтак высока ўздымаеце галовы й сэгрэгуеце людзей цяпер, дык што будзе, як БНФ дойдзе да ўлады?

Гэткі насьцярожны пагляд падмацоўваецца яшчэ й згадам на Ваш, дзівосны для інтэлігэнтнае асобы, запыт: зь якое прычыны Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў недаспадобы таму асяродзьдзю, зь якім Вы ў ЗША знаецеся?

Бо, ці Вы нічога ў гэтай справе ня ведалі, ці ведалі ўсё чыста, што Вам намовілі, сустрэцца Вам з Я.М. Мітрапалітам Ізяславам было на месцы.

Адмовіўшыся ад гэтага бяз выспыту праўды, Вы пагулецку, а не як палітык, паставілі сябе па баку тых, што, сьведама й нясьведама выконваючы варожыя намеры, скідалі наш япіскапат і гэтым развальвалі Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, ды давялі Яе да бясьсільнасьці.

З гэтае, непрыяцелям дагоднае, бясьсільнасьці сёньня ў Беларусі няма ня толькі ніводнае парахвіі БАПЦ, але й малога нат, хоць і нефармальнага гуртка, што да гэтага йімкнуўся-б, або рыхтаваў грунт.

Няма й у пастаўленым БНФ ценявым кабінэце міністраў партфэлю рэлігійных справаў, як-бы гэта была дробная праблема, што сама па сабе й разьвяжацца.

Дык дзе-ж тая палітычная, ці іншая творчая пастава БНФ да ўзнаўленьня нацыянальнае Беларускае Праваслаўнае Царквы, апрача прыгожых словаў і добрых намераў, якімі ўмошчваюцца дарогі ў пекла?

Дзе, апрача выбачэньняў за нерушь на гэтай ніве ды Вашых заклікаў падавацца ў варожы стан, дзе, калі ласка, скажэце, згад якіх-колечы дзеяў на асягненьне гэтае мэты?

І, ці, урэшт, нараканьні на рэальнасьці, замест знаку іхняе няпераможнасьці, ня ёсьць выявам спалоху, які мы самыя на сябе наганяем?

Спадзяюся, што гэты мой адказ на Вашага ліста Вы ня возьмеце за здарма прычэплены дапёк, а ўбачыце ў ім мо й трапны пошук праўды, ды створнага шляху да нашага поўнага адраджэньня.

Гэта, якраз, і было мэтай мае леташняе з Вамі сустрэчы, а й вынікпага зь яе пісаньня, ды застаецца ёю ў маіх думках і намерах надалей.

На заканчэньне карціць мне спытаць, ці не атрымалі Вы адумысловага выданьня газэты "Беларус", дзе зьмешчаны пасланы да друку Ваш ліст, бо ў звычайных чарговых нумарох я яго ня бачыў і, хоць ведаю, што там у рэдакцыі за ўспамін БАПЦ мыюць мылам рот, а праз іспалаі й многалеты Мітр. Філарэту ад "змагароў за волю Беларусі" пішуць рада, усё-ж цуды ў сьвеце, хай і рэдка, але здараюцца?!

Жадаю ўсяго найлепшага!

З глыбокай пашанай
Барыс Данілюк

## З А К Л І К

Дарагія праз Хрыста Сёстры й Браты!

Настае Вялікодная пара, а зь ёю разам прыходзіць і вясна, ды ў нашых сэрцах на коратка зьяўляецца сьвяточная радасьць і ўсьцеха з узнаўленьня жыцьця вакол нас у прыродзе.

Ды зараз-жа ўзноў намі авалодвае неспакой і пачуцьці калоціць трывога, якой не пазбыцца.

І не з асабістых, ці сямейных клопатаў прычына гэтае турботы, а з боязі за будучыню тае Справы, любасьць да Якое валодала цэлым нашым жыцьцём і была, як здавалася, узнагароджаная збыцьцём найдаражэйшае мары - асягненьнем дзяржаўнае незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны.

Ды як-жа хутка выявілася, што новая дзяржава на нашай зямлі ня зусім тая, якое мы спадзяваліся й наўгад ці стане падобнай да ўявы нашых лятуценьняў, калі наагул яшчэ нейкі час прайснуе.

Мы чуем вінаваньні за гэта на шмат што й шмат каго: на народную нясьведамасьць, на нягоднасьць засталага з часоў нявол ўпраўнога апарату, на спалую нам калекую гаспадарку ды ўрэшт на абыякавасьць да нашых патрэбаў цэлага сьвету.

Не знайходзім мы адно заганаў у сабе й ня прызнаемся да адказнасьці занівошта.

Але недзе глыбака ў душы, ці ў сумленьні ня сьціхае пытаньне, а ці-ж гэтая дзяржаўная незалежнасьць ня была нам дадзеная з Божае Ласкі на выпрабаваньне нашае гатовасьці й навагі зрабіць наш Край паслухмяным Знайвышнім Наказам.

І адразу кожнаму выяўляецца, што з гэтым выпрабаваньнем мы ня толькі ня справіліся, але й ягоных вымогаў ня ўсьведамілі.

Бо немагчыма пазнаць Знайвышнія Наказы ды грамадна служыць Божай Волі без свае патрыятычна настроеные Праваслаўнае Царквы.

А ці-ж мы яе сёньня на нашай Бацькаўшчыне маем, або хоць да ейнага ўтварэньня дзейна йімкнемся?

Ня трэба навуковых досьледаў, каб знайсьці адказ, што ў гэтай справе ніхто й нічога ня робіць, ані ёю ня цікавіцца.

Беларускі адраджэнскі актыў у Краі, нараканчы час ад часу на варожасьць да нацыянальных імкненьняў Беларускага Народу пастаўленае ў нас звонку сілаю зброі й прысьвечанае імпэрыяльным мэтам Расейскае Царквы, ня годзен, ці ня хоча ацаніць вагі й патрэбы нацыянальна творчае, ды незалежнае ад Масквы Беларускае Праваслаўнае Царквы.

Ды што гаварыць - нават дзе-якія беларускія эміграцыйныя дзеячы, што некалі, быццам Юдэі пры ўваходзе Хрыста ў Ярузалім, голасна й скочна віталі ўзнаўленьне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы за мяжою, сёньня ганарліва прадаюць Яе чужому сынэдрыёну, ды горнуцца пад крысо няласкавых да нашых імкненьняў нянаскіх прыставаў ад рэлігійных справаў.

Тымчасам цэлая процьма духовых патрэбаў і сацыяльных праблемаў, што іх толькі сваёй роднай Царкве задаволіць магчыма, або безь Яе разьвязаць нельга, усё глыбей і мацней вярэдзяць народную псыхіку й здароўе.

Ці-ж дзіва тады, што Божае Аблічча адварочваецца ад нас і Ягоная Ласка й Цярплівасьць кончыцца?

Адна толькі Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква выпрабаваньне Беларускага Народу Божай Ласкай разумее й усіхнюю адказнасьць за вынікі гэтага выпрабаваньня перад будучыняй усьведамляе, ды, упрашаючы нашаму Краю Знайвышняе Шчодрасьці, заклікае й навучае праваслаўных беларусаў, як дагадзіць Волі Стварца й здаволіць Ягоныя вымогі на зьмілаваньне над нашай Бацькаўшчынай.

Прыйдзе час і Ейны голас дойдзе ўва ўсе куткі нашае Бацькаўшчыны й Яна зойме там належнае Ей творчае месца.

Да тае-ж пары, Дарагія Сёстры й Браты, дбайма, каб голас нашае Сьвятое Царквы гучэў моцна й упэўнена, ды з годнага месца.

Гэтым годным і асьвячаным месцам, ды цэнтрам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы блізка ўжо праз сорак год быў і застаецца Катэдральны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне й далажыцца да ягонага далейшага йснаваньня — абавязак кожнага праваслаўнага, а нат і іншага веравызнаньня беларуса, які хоча справіцца з Божым выпрабаваньнем нашага Народу.

Дык будзьце, Дарагія Сёстры й Браты, шчодрыя ў Вашай ахвярнасьці й за яе Бог узнагародзіць Вас, а дзеля Вас і наш Край свабодай, усялякім духовым і сьвецкім дабром, ды памысьнасьцяй ўва ўсіх добрых справах

Няхай-жа Дзень Хрыстовага Ўстаньня з Умерлых прынясе Вам духовы ўздым, шчырую радасьць і навагу да службы Богу!

Парахвіяльная Рада
Катэдральгага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага
ў Брукліне

## У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ "ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА"

У наступным нумары "Царкоўнага Пасланца", калі Бог дазволіць дажыць, а грашовая падтрымка ад чытачоў будзе дастатковай, каб яго выдаць, апрача летапісных вестак з жыцьця БАПЦ і нашае Парахвіі, а таксама артыкулаў ды зацемак на цікаўныя, на нашую думку, праваслаўным беларусам царкоўныя ды наагул сучасныя рэлігійныя тэмы, прысьвецім месца й пытаньню беларускае мовы ў адправах, пачынаючы друк агляду выдадзенага ў 1994-м годзе ў Таронта "Служобўніка".

Артыкул аб ім быў рыхтаваны ў нумар " Царкоўнага Пасланца", што цяпер выходзіць у сьвет, але вырас больш за нашыя магчымасьці знайсьці на яго месца, дзеля чаго быў стрыманы да скарачэньня.

Спадзяемся, што "Царкоўны Пасланец" будзе здавальняць Вашыя зацікаўленьні й мы пачуем ацэну яму, як Вашымі словамі, гэтак і ахвярамі!



CHURCH MESSENGER
401 ATLANTIC AVENUE
BROOKLYN, N.Y. 11217